# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1166) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 2 ЛІПЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.



## ФЭСТ у МОКРЫМ

Беларускае таварыства дзейсна адзначае 60 гадавіну БССР. Ужо адбыліся два фэсты, прысвечаныя гэтаму юбілею. 11 чэрвеня з гэтай нагоды адбыўся народны фэст у Мокрым, што ў Бельскай гміне. Урачыстасць адкрыў солтыс Мокрага тав. Садоўскі. Затым начальнік гміны ў Бельску Іван Семянюк падкрэсліў значэнне фэсту і звярнуў увагу на той факт, што ў Бельскай гміне некалькі дзён таму назад (9 чэрвеня) у вёсцы Райск адбылося заводскае святкаванне Дня дзеяча культуры, а сёння святкуецца ў Бельскім рэгіёне 60 гадавіна Савецкай Беларусі. З дакладам выступіў старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі, журналіст „Нівы" Міхась Хмялеўскі.



*Танцавальная група беларускага ліцэя ў Бельску.*

Нягледзячы на халодную і дажджлівую пагоду, удзельнікі фэсту з вялікай увагай выслухалі даклад, а пазней захапляліся мастацкай часткай. Выступалі жаночы калектыў з Райска і мужчынская група з Дубяжына, якія працуюць пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага. Шмат выклікалі смеху жартоўныя расказы Людмілы Васілюк і Янкі Крупы. Танцавальная група навучэнцаў Бельскага беларускага ліцэя паказала высокі ўзровень.

Вельмі багатая была спартыўная частка, у арганізацыі якой вельмі заслужыліся сябры М. Сахарчук і М. Гонта з праўлення ЛЗС у Бельску. Неабходна падкрэсліць таксама вялікі арганізацыйны ўклад у падрыхтоўку фэсту моладзі з мясцовага гуртка БГКТ.

Надвячоркам пачаліся танцы.

Тэкст і фота **М. Сваяка**



*Выступае Райск і Дубяжын.*



*Спартыўныя розыгрышы.*

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Іхняцяжка знайсці: едучы з Заблудава ў Нарву, у Трасцянцы паварочваеце налева, і гладкая жвіроўка, віючыся між ляскоў і палёў, заводзіць вас у самае сяло. Імёны „сяло", а не „вёску", бо ў „Люстрацыі" з 1576 года каралеўскіх маёмасцей, што знаходзіліся ў тагачасным ваяводстве Падляшскім, чытаем наступнае: *„Сяло Белкі. У ім валокаў 30 зямлі кепскай, з якіх за ўсе павіннасці з аўсом і сенам плоцяць па літоўскіх грошай 83, разам літоўскіх коп 41/30. Млыновага плоцяць з кожнай валокі па грошай 6, разам літоўскіх коп 3".* Не малая гэта была павіннасць. Адзін карэц (каля пяці пудоў) азімай пшаніцы цаніўся тады 8 грошай, а жыта — 4 грошы, валока ж — гэта ў асноўным пазнейшы „ўчастак". Нялёгка жылося бяльчанам у тыя адлеглыя стагоддзі і ў бліжэйшыя да нас часы.

Аднак яны сваёй працавітасцю і стараннасцю патрапілі многае перамагчы, перабарваць. Сваю ж улюбёнасць у родную мясціну перадалі, між іншым, у дзесятках назваў. Тут кожная далінка ці пагорачак, кожны кавалачак поля, луга, пашы, лесу мае сваю назву, часам надта ж паэтычную. Учытаймася толькі ў іх: Азярыска, Альшына, Пуодальшыска, Асавіца, Заасавіца, Пудасавіца, Асака, Багно, Багінцє, Багданоўшчына, Болото, Буртін, Быярозкі, Воропайка, Выжар, Выжарка, Вэрбіна, Глінкі, Града, Груд, Гуоліддоўшчына, Дворышчэ, Доліна, Загородде, Заклунне, Закуткі, Злішкі, Каменка, Кернагі, Корач, Корогод, Коротышэ, Красніца, Круглэ полечко, Купіна, Ліескі, Заліескі, Пуодліескі, Ляшоўшчына, Макараўшчына, Мацееўшчына, Міжырычкі, Наділкі, Ножкоўшчына, Наўзкіе, Попелёўка, Рогозаўка, Снігарэво, Сіенажатка, Снігорэво, Татарка, Токовішчэ, Ярукі. Колькі можна вычытаць і аб маляўнічым наваколлі Белак і пра іх гісторыю з гэтых назваў!..

## БЕЛКІ

Хоць і тупалі бяльчане каля сваіх загончыкаў, рук не пакладаючы, але пражыць з іх не так лёгка было. Каб прыдбаць нейкі грош, у міжсезоння часы яны займаліся нарыхтоўкай і продажам дроў заблудаўскім мяшчанам, хадзілі да падзённай работы ў панскі двор у суседнія Агароднікі, шмат хто займаўся рамёствам. Яшчэ і сёння згадваюць тут здольных і працавітых майстроў Міранюкоў: бацька быў слаўным на ўсю ваколіцу калёснікам, а два сыны — цеслярамі, за сваё жыццё яны паставілі каля 70 дамоў, цэлае сяло!

Але хоць Белкі і знаходзяцца ў надта ж глухім закутку (адсюль усюды далёка: да Заблудава 11 кіламетраў, да Нарвы — 12, да Міхалова — 12), яны не асталіся збоку ад тых вялікіх падзей, што ў апошняе паўстагоддзе адбываліся на Беласточчыне. Тут дзейнічала ячэйка КПЗБ, быў актыўны гурток Грамады, працавала таксама арганізацыя Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі. У апошнюю вайну многія служылі ў Савецкай Арміі і змагаліся супраць нямецкага фашызму: Іван Андрэюк, Іван Германюк, Мікалай Ігнацюк, Мікалай Леўчук, Сцяпан Паўлючук, Іван Раеўскі, Іван і Мікалай Семянюкі, Аляксандр і Дзмітры Сцепанюкі, Мікалай Ясюк і іншыя, некаторыя з іх загінулі на фронце. Пасля вайны шэраг былых франтавікоў, а таксама маладых хлопцаў пайшлі служыць у органы дзяржаўнай бяспекі і міліцыі. У барацьбе з бандамі рэакцыйнага падполля загінуў Іван Лук'янюк.

Наступныя пасля вайны грамадскія пераўтварэнні, між іншым, далі сялянскай моладзі неабмежаваныя магчымасці вучобы, здабыцця прафесіі і працы ў гарадах. Не праміналі скарыстацца гэтым маладыя людзі з Белак. Марыя Андрэюк стала лекарам, Зоф'я і Ніна Андрэюк закончылі таксама вышэйшыя школы, Уладзімір Міранюк і Мікалай Пучко сталі інжынерамі, дзесяткі асоб закончылі розныя сярэднія школы, многія вучацца. Ніхто з іх не вярнуўся ў родную хату ці на бацькоўскую гаспадарку. І ў выніку ў сяле асталіся адны старыя. І так, калі ў 1949 годзе тут былі 74 нармальныя „перспектыўныя" гаспадаркі, то сёння такіх гаспадарак усяго 30, каля 20 — рэнцісты, а пасля іншых асталіся толькі занепадаючыя, з забітымі вокнамі і дзвярыма хаты або адны горбы камення з былых

(Працяг на стар. 4)

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## З песняй лягчэй...

Ведалі мае гарадскія жэўжыкі, чым на святы пацешыць сэрца свайго дзядулі. Прывезлі мне ў падарунак аж тры грамафонныя пласцінкі з рускімі песнямі ў выкананні Марка Бернеса. Вынеслі мы праігрывацель на ганак і паплыла першая песня:

*Тучи над городом встали,*
*В воздухе пахнет грозой.*
*За далёкой за Нарвской заставой*
*Парень идёт молодой.*

Тут я не стрымаў і пачаў памагаць славутаму спеваку.

*Далека ты путь-дорога,*
*Выйди, милая моя.*
*Мы простимся с тобой у порога*
*И, быть может, навсегда...*

Людзі спыняліся і слухалі. Неўзабаве вакол майго ганка сабраўся сапраўдны натоўп малых і дарослых аднавяскоўцаў. Нават мая Палашка адарвалася ад кухоннай пліты і, высунуўшы галаву праз адчыненае акно, заслухалася, а ўспамін зацвіў на яе паморшчаным твары сардэчнай усмешкай. Можа ўспомніла яна гэты чэрвеньскі вечар 1941 года, калі закончылі мы якраз сямігодку і з гэтай нагоды ў нашай школе наладзілі фільм. Прывезлі яго байцы з суседняга мястэчка. „Человек с ружьём" — так называўся гэты фільм.

Была субота. Цудоўная чэрвеньская ноч. Я тады ўпершыню правёў дамоў маю Полю. Ішлі мы, трымаючыся за

(Працяг на стар. 4)



*Плошча Будаўнікоў у Наваполацку.* *Фота Э. Трыгубовіча.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

# Наваполацк

Горад гэты малады: усяго 20 год таму назад паявіўся ён побач свайго старажытнага сабрата — Полацка.

Гэты горад нерасцягнуты, утульны, чысты. Прамысловыя прадпрыемствы аддзелены ад жыллёвых кварталаў шматкіламетровай паласой зялёнага масіву. Але дарога да месца працы займае нямнога часу: скоры трамвай праязджае гэты шлях за 8-10 мінут.

8-10 мінут — і вось перад намі шэрагі трубаправодаў і фабрычных карпусоў са шкла і бетону. Вось яна, беларуская хімія, дзеля якой і нарадзіўся гэты горад.

Усё, што ўзводзілася і ўзводзіцца ў Наваполацку — паўстае ўпершыню ў Беларусі.

Першынец беларускай нафтавай прамысловасці з'яўляецца адным з найбольшых у Еўропе нафтаперапрацоўчых заводаў. Тут быў атрыманы першы ў рэспубліцы бензін і яшчэ больш 40 іншых прадуктаў перапрацоўкі нафты. Ён яшчэ будаваўся, а будаўнікі ўжо пачалі ўзводзіць першынец беларускай нафтахіміі — хімічны камбінат.

Цяпер паўстае першынец беларускай мікрабіялагічнай прамысловасці — завод бялкова-вітамінных канцэнтратаў.

На працягу ўсіх гэтых гадоў у такім жа хуткім тэмпе ішло бытавое будаўніцтва. Ужо ў першым годзе будаўніцтва Наваполацка дзесяткі сем'яў адсвяткавалі наваселле ў інтэрнатах з навейшым абсталяваннем.

Сёння ў горадзе звыш 20 тысяч выгодных кватэраў, дзесяткі крамаў, сталовых, рэстаранаў.

У Наваполацку ёсць шырокая сетка школ, прадшколляў, музыкальная школа, палітэхнічны інстытут. Кожны трэці навапалачанін вучыцца.

Палацы культуры нафтафізікаў і будаўнікоў, кінатэатры „Космас" і „Маладосць", Палац піянераў і школьнікаў, дзесяткі бібліятэкаў — усё гэта таксама пабудавана для ўсіх і даступна кожнаму.

Далёка па-за межамі горада і рэспублікі вядомы калектывы мастацкай самадзейнасці Наваполацка. Танцавальнаму калектыву „Дзвінскія світанні", напрыклад, апладыравалі ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы і Даніі.

Наваполацк малады. Маладыя і яго жыхары. Сярэдні іх узрост не перавышае 30 год. А маладосць і спорт тут не раздзяляюцца. У горадзе ёсць стадыён, тры плавальныя басейны, дзесяткі спартыўных залаў і пляцовак. Вялікай папулярнасцю карыстаецца клуб водных лыжаў імя Юрыя Гагарына. Любяць у горадзе спартыўныя святы і спаборніцтвы пад назвай: „Папа, мама і я — спартыўная сям'я".

Кожнае прамысловае прадпрыемства Наваполацка мае сваю базу адпачынку за горадам, дзе можна правесці водпуск, палавіць рыбу, схадзіць у грыбы і ягады. Сотні навапалачан па накіраваннях з прафесіянальных саюзаў папраўляе здароўе ў завадскіх санаторыях-прафілакторыях, а таксама ў лепшых санаторыях, пансіянатах і дамах адпачынку краіны; ездзіць у турысцкія вандроўкі па Савецкаму Саюзу і заграніцу.

Горад Наваполацк — інтэрнацыяналіст ад нараджэння: яго будавалі людзі 49 нацыянальнасцей Савецкай краіны, а пры ўзвядзенні аб'ектаў нафтаперапрацоўчага завода працавалі прадстаўнікі Чэхаславакіі і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

На прадпрыемствах Наваполацка праходзілі стаж спецыялісты Венгрыі, Балгарыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Польшчы, Кубы. Блізкія сяброўскія сувязі ўтрымоўваюць тут з акругай Франкфурт-на-Одры і Зеленагурскім ваяводствам. Цяпер у горадзе жыве і працуе вялікі атрад польскіх будаўнікоў, якія пракладваюць нафтаправод згодна з міждзяржаўным дагаворам СССР і ПНР.

Калі знаёмішся з Наваполацкам, міжвольна прыгадваецца старажытная легенда пра тое, што з Сафійскага сабора ў Полацку ёсць пад ракою Дзвіною падземны праход, які вядзе ў беласценны горад, дзе ўсе жывуць шчасліва. Знайсці гэты праход, паводле легенды, могуць толькі людзі моцныя духам і дружныя. І вось сёння гэты горад знойдзены. „Праход" у яго — гэта шлях, пракладзены сацыялістычнай рэвалюцыяй, Кастрычнікам.

**Юры Касцюк**

## ХРОНІКА

15 чэрвеня адбылося ў Гарадку пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прэзідыум разгледзеў інфармацыю аб працы БГКТ у гарадоцкім раёне і зацвердзіў планы правядзення справаздачных сходаў у гуртках БГКТ і працы Прэзідыума на другое паўгоддзе.

Удзельнікі пасяджэння асаблівую ўвагу звярнулі на працу гарадоцкага хору. Гэты заслужаны калектыў патрабуе дзейснай дапамогі і большай апекі на штодзень. На жаль, мясцовыя ўлады бачаць хор толькі тады, калі трэба „абслужыць" ім акадэмію. Сваю абыякавасць да культурнай працы выказалі яны і ў гэты дзень: нягледзячы на запрашэнне, ніводзін з мясцовых натабляў не з'явіўся на пасяджэнне. Прыкра.

Дзеля ажыўлення працы ў раёне Прэзідыум вырашыў стварыць групу раённых актывістаў. Восенню плануецца правесці пленум на тэму „Фальклор у дзейнасці БГКТ".




**У Міклашэве ● Сямейнае гняздо Майсакоў ● Пра паэта і змагара ● Русалка ● На спартыўнай ніве ● Палоска дзядзькі Кваса ● Весткі з Нарвы, Васількова, Слоі, Бельска, Супраслі, Дубровы, Дубічаў, Гайнаўкі, Агароднік, Гродзіска, Чаромхі, Гацькоў ● Хронабіялогія — што гэта? ● Калі сніцца кот ● Кастусь дамаўляецца з Парфенам ● Песня „Chłopak z drewna".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 1 VII** — 10.00 Koty to dranie — film obycz. 15.10 Pr. dnia. 15.15 Radzimy rolnikom. 15.25 Dziennik. 15.35 Obiektyw. 15.55 Sensacje z przeszłości: Wokół Wyspiańskiego. 16.30 Tydzień pełen wrażeń — komedia sens. CSRS. 17.45 Formuła szczęścia — teletur. 18.15 Regaty. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Poskromienie złośnicy — kom. kostiumowa. 22.30 Dziennik. 22.45 Zapraszamy do teatru muz. w Gdyni: Rewia morska.

**Niedziela 2 VII** — 7.30 RTSS. Zajęcia wakacyjne. 7.50 Emerytury dla rolników: Poradnia. 8.00 RTSS. Zajęcia wakac. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Teleranka. 9.30 Antena. 9.55 Na bezkresnym oceanie — film dok. 11.30 Dziennik. 11.45 Rolnicze rozmowy. 12.15 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik.

**Poniedziałek 3 VII** — 14.25 Pr. dnia. 14.30 Melodie: Kalejdoskop z kukiełkami. 14.45 Wakac. Kino Mł. Nastolatki — dramat obycz. węg. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.45 Nasi kochani bliźni — film fab. NRD. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. P. Choynowski: Ruchome piaski. 21.55 Poradnik zmotor. tur. 22.05 Camerata. 22.35 Dziennik.

**Wtorek 4 VII** — 10.00 Panie na Mogadorze — ser. fr. 13.55 Pr. dnia. 14.00 Melodie: Filmoteka folkloru. 14.25 Wakac. Kino Mł. Zemsta — kom. pol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Gram dla ... — teletur. 17.50 Interstudio. 18.20 Człowiek i przyroda — film dok. hiszp. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — ser. ang. 21.25 Poradnik zmotor. tur. 21.35 Świadkowie. 21.55 Dziennik. 22.10 Teatr Małych Form. J. Drzeżdżon „Anna".

**Środa 5 VII** — 14.25 Pr. dnia. 14.30 Melodie: Melodie miast. 14.40 Wakac. Kino Mł. Trener — film fab. radz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Kino Najmłodszych. 17.00 Nie tylko dla kobiet. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Moja żona i ja — kom. obycz. NRD. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Cygańska miłość — film fab. węg. 21.30 Poradnik zmotor. tur. 21.40 Festiwal Pios. Żołn. Kołobrzeg 78: Koncert inauguracyjny. 23.10 Dziennik. 23.25 Twarze teatru — J. Stuhr.

**Czwartek 6 VII** — 13.55 Pr. dnia. 14.00 Melodie: W barokowym nastroju. 14.25 Wakac. Kino Mł. Pięciu — film obycz. pol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.30 Sonety Petrarki. 18.20 Sonda: ile wytrzyma człowiek, czyli BHP. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Brygady Tygrysa — film krym. fr. 21.30 Poradnik zmotor. tur. 21.40 Festiwal Pios. Żołn. Kołobrzeg 78: Karuzela z piosenkami. 22.40 Pegaz. 23.25 Dziennik.

**Piątek 7 VII** — 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie: Malowany dzban. 15.10 Wakac. Kino Mł. Historia żywa. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.00 Klub dobrej roboty. 17.30 Zwyczajny miesiąc — ser. radz. 18.35 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Chirurdzy — dramat obycz. bułg. 21.45 Poradnik zmotor. tur. 21.55 Dziennik. 22.10 Festiwal Pios. Żołn. Kołobrzeg 78: Premiery.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 30 VI** — 8.35 Film fab. 18.35 Film fab.

**Sobota 1 VII** — 10.00 Film fab. 11.15 Sport. 14.00 Koncert życzeń. 15.15 Filmy anim. 18.00 Piłka nożna. Czernomoriec — CSKA. 20.30 Koncert laureatów fest. „Złoty Orfeusz".

**Niedziela 2 VII** — 10.00 Film dla dzieci. 12.30 Spektakl. 14.45 Panorama międzynar. 16.00 Film dok. 17.20 Film anim. 17.50 Klub film. 18.50 Spektakl. 20.30 Konkurs im. P. Czajkowskiego.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Nieme kino — USA 4—5. Cenny depozyt — fr. 6—7. Niedokończony utwór na pianolę — radz. 8—9.

**Bielsk Podlaski** Niewygodny kochanek — wł. 4—5. Zeznanie komisarza policji przed prokuratorem republiki — wł. 6—7. Romans Teresy Hennert — pol. 8—9.

**Czeremcha** Nieśmiertelni — rum. 4—5. Motylem jestem czyli romans czterdziestolatka — pol. 8—9.

**Czyże** Wspaniały mężczyzna — buł. Pociąg na śniegu — jug. 5—9.

**Gródek** Pocałunki z Honkongu — fr. 8—9.

**Hajnówka** Słońce hien — tunez. 3—5. Intryga rodzinna — USA 6—7. Anna i wilki — hiszp. 8—9.

**Michałowo** Serpico — wł. 4—5. Za mostem — rum. 6—7. Posłannictwo z innej planety — RFN 8—9.

**Mielnik** Odpowiedź zna tylko wiatr — RFN 5. Za rok, za dzień, za chwilę — pol. 8—9.

**Milejczyce** Najdłuższa droga — jug. Rozumiemy się bez słów — czes. 5—9.

**Narew** Barwy ochronne — pol. Zaufanie — radz. 5—9.

**Nurzec** Przeciw Kingowi — jug. 4—5. Za mostem — rum. 6—7. Szał — ang. 8—9.

**Orla** Cień zbrodni — buł. Szarada — pol. 5—9.

**Rajsk** Błękitny ptak — radz. Gwiazda zwodniczego szczęścia — radz. 5—9.

**— N i w a —**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. nr 4 7.600 egz. N-4

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

## ЧОРНАЯ ВІЛА

(працяг)

### II. Здзіўленне

Вырачыўшы вочы ў клейкім змроку,
Дзеці неабцёсанай прыроды
Аглядалі са здзіўленнем ў роце
Панадворкі родныя, знаёмыя.

Але ўсё было, як і раней:
Той жа воз і тая ж клуня,
Крапіва пад плотам аж да хаты,
Дзе пад хлеўчыкам на скрыпках
Страдзівары
Свінні нудна нешта сёння йгралі.

І нідзе нічога не было выключнага...
Як заўсёды, спадылба на іх глядзелі
Рэчы ўсе, якімі мучаць,
Рэжуць, б'юць і паганяюць.

І таму, павесіўшы пакорна вушы,
Згодныя на ўсе няшчасці, здзекі,
Слухалі, ці ў гуках ранняй ночы
Не чуваць дзе крокаў чалавека.

Чалавек — двухногая істота.
Чалавек — таемнае стварэнне.
Бог дзвярэй, агню, усіх прадметаў.
І мастак пярэднімі нагамі кідацца
каменнем.

Можна з ім дагаварыцца,
Мець заступніка-карміцеля,
Толькі нельга пад ім рыцца,
Ні рагамі і ні задам біцца.

„Прыдзе ён, прапахшы потам,
Дымам нейкім і цыбуляй.
І спачатку песціць, туліць...
Каб праз хвілю ўдарыць потым.

Але гэта не балюча.
Толькі так неспадзявана...
Можа ён нас так вучыць
Філасофіі сялянскай?

Прыдзе баба гаваркая,
Што пачэша нас, памые.
Ну, мы проста маладзеем.
З ёю цешымся, брыкаем.

Любяць нас таксама дзеці
Паганяць па панадворку.
Зразумела — бегаем без толку...
Але з боку як прыемна паглядзець
На гімнастыку вялікіх цел!"

Штосьці дзесьці шамацела:
Быццам дзверы ў хаце праскрыпелі,
Быццам у хляве салому слалі,
Быццам да вады іх клікалі,
Бразгаючы вёдрамі бляшанымі...

Але гэтак гаманілі
Сціснутыя шэрасцю прадметы.

Не ішоў ні гаспадар, ні гаспадыні
У ліхтарыку са светам.

У глухмені матылінай
Дом чарнеўся фурай сена,
Што застрагла ў вязкай гліне.
Ні агеньчыка на сценах.

„Дзе яны прапалі сёння?
Ці мо гэта здарылася ўчора
Ў нашай вёсцы Белазверы?
Людзі зніклі, як камфора.
Так бязлюдна, што не верыш!..

Ну каб хоць адзін, напрыклад,
Чалавек астаўся з імі!

Хто напоўніць нам карыта?
Малако хто сцэдзіць з вымя?
Запражэ нас хто ў аглоблі?
Хамутом — вянком лаўровым
Хто наш упрыгожыць воблік?
Хто надзене нам падковы?

Хто заколе нас пад свята,
Калі мы ўжо — бочкі сала?
Гэта ж чыстае распяцце —
Страціць веру ў ідэалы!

Ці ж мы супраць йшлі каго!?
Не чакаўшы з неба манны,
Елі бульбу — наш пірог,
Каб таўсцець. Усё для плана!

Ні вада атрутая, ні травы
Не стамілі волі нашай:
Мы штодзень няслі дзяржаве
У падарку воўну, мяса.

Пакудахкваючы крыху,
Быццам дзед на лаўцы,
Нават драбяза птушыная
З нічаго рабіла яйцы.

Людзям каб жылося ўволю!
Каб не елі з адной міскі —
Мы хадзілі з імі ў поле
З кнігамі эканамістыкі..."

Цішыня, як чорны шалік.
Сум. Трывога ў Белазверах.
Слабанервныя рыдалі,
Гледзячы ў адчыненыя дзверы.

Чулася то тут, то там па вёсцы:
„Дзе наш даражэнькі гаспадар?
Прабачэння ў цябе просім!
Будзь заўсёды нам уладар!"

Летні сон, скупы і палахлівы,
Распасцёр свой сцяг рабочы,
Запрашаючы паспаць шчасліва...
Але як драмаць такою ноччу!

Толькі вераб'і і вераб'іхі,
Быццам грэцкія арэхі,
Моцна ўбіўшыся у стрэхі,
Пазяхалі вельмі ціха.

**Ян Чыквін**

## БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА

### СОРАК ТРЭЦЯЕ

Паклон прыміце шчыры,
Травы лугавыя —
Ад брата вашага,
Журботнага, як восень.
Вядома, нашай песні
Сёння стаў чужы я,
Але нашу у сэрцы
Ваша адгалоссе.
Я сёння — ужо не я.
Зламаны, нібы скрыпка.
І толькі шчэпкі
Паразносіў недзе вецер.
Я прагну аднаго:
Няхай нясе пад ліпку —
Туды, адкуль пайшоў
Даўно на божы свет.
Адну хай шчэпку кіне
У лугоў узлонне.
Жаданняў большых
Я не маю, кажу чэсна,
Хай возьмуць яе травы
Ў цёплыя далоні —
Я стану вечным гоманам
Зялёнай песні.

**Алесь Барскі**

* * *

за акном не бачу нічога
тут
утульна
тут яно

на верхняй кніжнай паліцы
загоны яновіча
поруч пазычаны чыквін

барскі швед
у шафе
за ёю стэлаж
— там святы леанчук з
ахрыплым голасам
ірэны баравік
і
паэтычным разлікам часу
— міхася шаховіча

вочы надзі
над крэслам за сталом
на стале
ніва дзень паэзіі 76
старонка 133

усюды сэнс туронка
у паветры віцька стахвюк

усе
тут і не тут

**Ваву**

## ПЕРАД АФІНСКІМ АКРАПОЛЕМ

Узносіцца плаўна па белых алеях,
Як хваля жывая, бязмежны натоўп;
З падножжа гары да варот Прапылеяў
Гудзіць разнамоўнай мелодыяй слоў.

Агністы воз Гелія ўехаў высока
На чыстае неба — блакітны графін.
І золата льецца гарачым патокам
На плечы турыстаў, на дахі Афін.

Жалезныя краты ў шырокіх варотах
Яшчэ сцеражэ і ланцуг і замок.
Грамады цікаўных, аблітыя потам,
Спакойна чакаюць, напружваюць зрок.

У вулеі слоў, у сімфоніі гукаў
Тон мовы знаёмай паплыў з-за пляча,
За мною стаялі маленькая група:
Вянок маладых русакудрых дзяўчат.

Уважліва слухалі гіда аповесць
Аб дзіўных падзеях і міфах старых,
У кожнай быў сшытак, пяро ці аловак,
І вочы, як зоркі, і шчасця парыў.

З далёкай Сібіры, Масквы, Ленінграда,
З'яднаныя ўсе у адзін калектыў,
З'явіліся ў цэнтры ўваскрэсшай Элады,
Які ў старажытных каменнях застыў.

А побач турысты з Белграда, Варшавы
Малююць на фільмах фрагменты карцін,
І смуглы араб, і француз кучаравы
Прыйшлі паглядзець на руіны святынь!

Высока падняты храм Нікі Аптэрос
Кідае на нас ахалоджаны цень,
І сочыць удаль каланадаю шэрай
Праз тысячагоддзі і ноччу і ўдзень.

Падзеі свае ўспамінае, як казку,
Якую прышлося яму перажыць.
І цешыцца з намі, што ў сонечным бляску
У фарбах цудоўных ляжыць краявід.

Прад намі насупраць маёмасць Арэса,
Дзе злыя эрыніі спалі між скал.
Калісь там Феміда сярод кіпарысаў
Склікала на суд векавы трыбунал.

Адзін камень ганьбы, другі камень кары
Ляжаць яшчэ цэлыя з гэтай пары:
Стаялі на іх і зладзей, і ахвяра
Прад грозным абліччам Савета Старых.

Направа, ў паднsocжжа Арэсавай горкі,
Гефест сцеражэ векавы Тэзеён,
Бароніць Агору, Аталовы порцік
І чуе царкоўны апостальскі звон.

А з левага боку на кончыку Музы
З руін манумента глядзіць Філапапс
На мур Адэона, на белыя друзы,
На стоўб Еўмена і боскі тэатр...

Ды раптам ланцуг зазвінеў гучным тонам,
Рассунулі крыллі жалезныя брам.
Натоўп ажывіўся і рушыў раптоўна,
Як быццам дарога адкрылася ў рай.

**Д. Шатыловіч**



## АСЕННЯЕ

Сцелецца туман на наднараўчанскія паплавы. У вадзе стаяць шурпатыя старыя вольхі. Пажаўцеў клён над хатай. Крыху счакаўшы, усё гэта забірае з акна маўклівы асенні вечар. У печы тлеюць яшчэ незгарэўшыя дровы. Дрэмле кошка; яна мурлыкае нешта праз сон. Прысеўшы да стала, маці збіраецца з пісьмом сыну. Ужо ўправілася з капаннем бульбы, выбрала ўсю капусту, пазбірала позні́я апаўшыя яблыкі. Нездаровіцца ёй.

— Зраблю яму цёплы світар ды шкарпэткі! Як толькі ачуняю... Як пахаладнее, то і свежанінка з парсючка будзе. Сынок мой прыедзе!

Верыць яна ў гэта, як у вясну пажоўклы клён за вакном.

**Я. Целушэцкі**

## ЭКСПРЭСАМ НА ПАРНАС

Пра першы, дэбютанцкі зборнік кожнага паэта пісаць нялёгка, а таму, што пачынаючы творца з усіх сіл намагаецца ўвапхнуць у першародную кніжачку ўсялякай жывёліны па пары, бы біблейны Ной у свой каўчэг. І тады крытыку даводзіцца акрэсліваць, на чыіх палетках яны пасвіліся.

У выпадку зборніка **Міхася Шаховіча „Прамінанне"**, які ў бягучым годзе выйшаў у выдавецтве Галоўнага праўлення БГКТ, гэтая роля крытыка значна аблегчана. Аўтар патрабавальны да сябе. Хадзіў ён па такіх абшарах і чэрпаў з такіх крыніц, якіх не мае чаго саромецца. Аднак у асноўным вершы М. Шаховіча прыналежаць „Белавежы", бо ў кожным з іх адчуваецца тыпова „белавежскі" мікраклімат.

Хоць назва зборніка „Прамінанне" і прадвяшчае мінорны тон, але на самай справе паэзія М. Шаховіча надта ж жыццерадасная. Возьмем хоць бы такое: *„Так усё цудоўна, так прыгожа!/ Вось каб жыццё не падвяло!/ Далей бы бег за песняй збожжа/ ў зубах з сарочкай за сяло"*. І гэтыя аптымістычныя акорды рассыпаны па ўсёй кніжачцы, яны — вядучы ў ёй матыў. Сум жа — гэта той фон, той *„луг зялёны"*, ад якога яны адбіваюцца і звіняць яшчэ больш пералівіста. Радасць існавання, быццё ў гэтым нашым чароўным свеце, на ўзлонні роднай зямелькі, сярод блізкіх і дарагіх яму людзей і рэаліяў знайшлі поўны выраз у вершы *„Налі яшчэ, чаромха"*. Можа таму такое важнае месца ў зборніку займаюць адносіны паміж чалавекам і прыродай. Часцей за ўсё яны зводзяцца да вострага канфлікту, у якім чалавек з'яўляецца агрэсарам, што *„гуманізму плашч чорны на плечы"* ўздзеўшы, *„каб з сумленнем у спрэчках не быць"*, вядзе сябе, як шкодны кот: дзе хоч улезе, усюды напаскудзіць — і на




(Працяг на стар. 4)

 

(Працяг са стар 3)

# ЭКСПРЭСАМ НА ПАРНАС

зямлі, і ў небе. На пастаўленае аўтарам пытанне: *„што запаліць, што пагасіць рыжавага стагоддзя новы сын?“* (*„Новы год“*) мы на вуснах маем свой адказ: запаліць апакаліпсічны канец свету. Але тут раптам М. Шаховіч наперакор усім спадзяванням кажа: *„У прыродзе канца не бывае.../ У прыродзе ёсць толькі пачатак“.* (*„Ноч гойна...“*) Нехта заўважыць шаховічаўскім: ат, па-свойму круціць млын. А мне здаецца, што гэта натуральна. У сваёй паэзіі М. Шаховіч няспынна змагаецца супраць таго чакання „канца свету“, якое не-не ды зноў аджывае ў людскіх думках, у кожнага з нас. Ён проста аб'явіў бой гэтаму прывіду, гэтаму абяззбройваючаму, песімістычнаму ўспрыняццю людскога існавання.

Між радкамі вершаў вычытваем, што гэты „канец свету“ — цалкам натуральная, праўдзівейшая сярод праўдзівых справа. Закончыліся ж беспаваротна тысячы „светаў“ для тысяч пакаленняў нашых продкаў, значыць, мусіць закончыцца і наш „свет“, свет нашага пакалення. Што ж на гэта творца? Ён не належыць да тых усяведаў-зазнайкаў, дамарошчаных цудатворцаў, што зараз жа, у адным імгненні, настрочыць усяму чалавецтву рэцэпт. Не. М. Шаховіч з лячэннем не спяшаецца, не імкнецца павучаць і не намагаецца папраўляць свет. Ён справядліва лічыць, што прадстаўляючы ў вершы гэтую адвечную болесць чалавечай душы, тым самым ён яе лекуе. Хоць часам не можа ўстрымацца, каб не выступіць у ролі прарока і не выгукнуць „мондрай“, але ўжо зусім замызганай ад частага ўжывання, парады: *„Хто не верыць ні ў што/ — той памёр ў небыцці“.* (*„Хто не верыць...“*). Даволі шчодра аддае даніну М. Шаховіч і моднай тэме супрацьпастаўлення чароўнай пекнаты квяцістай прыроды аблезламу злыдню гораду. Вядома, гэтая тэма — змуршэлая старасвеччына і штучнасць, хоць аўтар і намагаецца прыбраць яе ў крыклівыя шаткі (*„Просьба“*) ці апакаліпсічныя абразкі (*„Падкурчыўшы ногі...“*). Але паблукаўшы ўдосыт па касмічных прасторах ды па „мястовых“ гладкіх тратуарах, ён з радасцю знаходзіць *„старэнькі бацькоўскі наш дом,/ дзе, вярнуўшыся з цяжкага падарожжа,/ так прыемна агарнуцца лёгкім сном“* (*„Зямля родная“*).

Нават калі М. Шаховіч два гады таму назад і прызнаўся: *„мне ўжо дваццаць трэці“* (*„На жаль, я чалавек“*), мы ўсё ж лічым яго маладым, надта маладым, у параўнанні, зразумела, з тымі „белавежцамі“, якім даўным-даўно пераваліла за пяцьдзесят, а яны ўсё яшчэ лічаць сябе пачынаючымі і ў жыцці і ў творчасці. Вядома, маладосць — завідная пара ў жыцці!.. І яшчэ трэба лічыць М. Шаховіча маладым творцам таму, што ўсё ў яго зялёнае: *„ліства зялёная“ і „зялёныя грывы бяроз“, „луг зялёны“, „зялёная барада“ і нават „зялёная святыня“*, а ў ёй — што вы думалі? — *„зялёны бог“* ды *„зялёная багіня“*. А ці ж можа быць інакш?.. Ну і ўсё навокал стаіць у квітненні: *„ліпа пахне квецем“, „кветкі пахнуць мёдам“*, а тут яшчэ перад вачыма мітусіцца *„здзябло тваіх валос квяцістых“*... Ці з гэтага зяленіва ды кветачак вырастуць і даспеюць ягадкі і якія яны будуць? — запытае нехта. Я ў прарока гуляць не хачу. Нават самому М. Шаховічу не веру, калі ён голасна заяўляе, што ўжо за ім *„ззаду адцвіўшы вяне сад,/ што даспявала — то даспела,/ што не даспела — згіне й так“* (*„Жыццёвая карусель“*). Мне здаецца, яго творчае натхненне зусім не „выпіта да дна“ і ў сваё паэтычнае падарожжа выбраўся ён не *„лодкаю дзіравай“* і не *„чоўнам з рулём паламаным“*, а выехаў скорым цягніком. А ў такім выпадку: *„Гэта ж скоры! Пустыя старанні: /Не пісаць, брат, законаў яму!“* І я, бедны крытык, моўкну таму...

**Мікалай Гайдук**

(Працяг са стар. 1)

# БЕЛКІ

падмуркаў. Штогод расшыраецца тут абшар здадзенай у дзяржаўны фонд зямлі, які апрацоўвае ВПГР з Нарвы. Але шмат зямелькі, дзе яшчэ нядаўна каласілася не такое ўжо і благое жытка ды красавалася кусцістая грэчка, Жэдненскае надлясніцтва засадзіла лесам. І вядомыя калісьці больш з казак ці анекдотаў, чым з рэчаіснасці, алені і дзікі цяпер на стала прыжыліся каля Белак. І ўжо не мара ці нячысты страшыць тут, але агароды, авёс ды бульбу пустошыць нейкая аграмадная дзічыха з вялікім вывадкам парасят...

Усё ж я не хачу закончыць свайго артыкула пра Белкі такім панурым абразком. У гэтым сяле жыве і працуе не так і мала дбайных людзей. А працаваць ёсць на чым: хоць ворыўная зямля тут і слабая, але затое меліяраваныя сенажаці і паша дасканалыя. Таму сяляне займаюцца пераважна гадоўляй малочнага і ўбойнага быдла, а перадавымі гадоўцамі тут з'яўляюцца Канстанцін Нікіцюк і Іван Міранюк. Непадалёк Белак вырасла таксама гадаўляная ферма нараўскага ВПГРу. Мне здаецца, што ўсё ж сяло Белкі не стане лясным урочышчам над рэчкай Малыніцай, як гэта было пяць ці дзесяць стагоддзяў таму назад.



*У летні дзень на вуліцы Белак.*



*Солтыс сяла Белкі А. Раеўскі не прарочыць сваёй мясцовасці доўгай і багатай гісторыі.*

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## М. ШАХОВІЧ — З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**гопа** — печаная ў печы бабка з цёртай бульбы, змешанай з кашай і скваркамі. Сядай з намі гопу йесті, смачна прысмажана. Давно вжэ гопы нэ было, завтра буду в пэчыэ паліті, бо хліэб, то трэба будэ спэчы. Ну вас з вашэю гопою, всэ гопа і гопа.

**гранка** — капіца сена. Складалі яго ў выпадку дажджу, каб не так хутка прамокла і каб лягчэй было накладаць на воз. Я казала — высохло і давай зложымо в гранкі, бо пуойдэ дождж і змокнэ, то ты ніэ. І всё сіэно змокло. А з гранак і браті лёкш.

**клёк** — дзіцячая гульня. Ставілі банку і з пэўнай вызначанай адлегласці збівалі яе кіямі. Адзін з гуляючых пільнаваў гэтую банку. Калі збілі, беглі па свае палкі. Заданнем пільнуючага было як найхутчэй паставіць гэтую банку і гнаць тых, што прыбеглі па палкі. Калі да некага дакрануўся і паспеў дабегчы да банкі і зваліць яе, дык той займаў яго месца. Як прыдэ, бывало, нэдіэля, возьмэмо кійе і ціэлы дэнь в клёка пройграемо. Ты пэрэстань з тым клёком, а то ногі чого доброго попэрэбівают. О, якіе пооббіваты.

**пастух** — той, які пільнаваў банку пры гульні ў **клёка.** Докуоль я буду пастухом, нэ іграю.

**піэвэнь** — вада ў якой варылася бульба. Наварат, бывало, картофэль, йімо, піэвнём попіваем. Ой, як добрэ было.

*(Чыжы)*

## Прыдаліся б дашкі

Вельмі прыдаліся б трохсценныя пачакальні на аўтобусных прыпынках ПКС на лініі Міхалова-Нараўка. Асабліва ў Плянце, Ляўкове, Сушчы, другой Плянце і ў Нараўцы. Тут збіраецца найбольш пасажыраў са спамянутых і суседніх навакольных вёсак. Няраз аўтобусы спазняюцца і прыходзіцца доўга чакаць пад голым небам. Надвор'е бывае рознае. У дождж няма дзе падзецца. У Нараўцы праезджыя ўціскаюцца ў крамы і наносяць многа балота. Вядома, такога натоўпу не любяць прадаўшчыцы. Гэта ж вялікая нявыгада для ўсіх.

Варта, каб беластоцкае прадпрыемства ПКС паклапацілася пра пабудову трохсценных пачакальняў, якія на іншых лініях здаўна ёсць. Пасажыры будуць за гэта вельмі ўдзячны. **(ця)**

## Пракладка тратуараў

У цэнтры Заблудава, каля гарадскога скверыка, ідзе пракладка тратуараў. Яшчэ яны будуць пракладзены з аднаго боку самай галоўнай вуліцы, якая пару гадоў таму назад атрымала асфальтаванае покрыва. Дагэтуль тратуар пракладзены тут на невялікім адрэзку.

## Прыгажэюць пасёлкі

Жыллёвы кааператыў у Гайнаўцы існуе больш 15 гадоў. Мае ён 236 членаў і кандыдатаў. У кааператыўных будынках жыве 2,5 тыс. чалавек. Да 1980 года новыя кватэры атрымае 635 сем'яў.

Пару гадоў таму назад закончылася пабудова жыллёвага пасёлка ў раёне вуліц: Леніна, Вызвалення і Ажэшкі. Ёсць тут крамы, пункты бытавых паслуг, кавярня „Верас“, святліца.

Цяпер узводзяцца чарговыя дамы на другім пасёлку, які знаходзіцца з боку Белавежскай пушчы. Тут таксама ёсць некалькі крамаў, дзіцячыя яслі, прадшколле. Будзе яшчэ пабудаваны рэстаран і кавярня.

На спулдзельчых пасёлках грамадскія дзеячы актыўна вядуць культурна-асветную і выхаваўчую дзейнасць. Дзеці і дарослыя ў свабодны час ахвотна займаюцца ў выбраных гуртках зацікаўлення. У час зімовых і летніх канікул жыллёвы кааператыў арганізуе для дзяцей сваіх членаў краязнаўчыя экскурсіі ў маляўнічых ваколіцах нашага ваяводства.

Жыхары гайнаўскіх кааператыўных пасёлкаў пасадзілі маладыя дэкаратыўныя дрэўцы, кустарнікі, кветкі, пабудавалі лавачкі на алейках, абсталявалі рознымі прыладамі пляцоўкі для дзіцячых гульняў. Яны самі прыбіраюць і ўпрыгожваюць свае лесвічныя клеткі ў блоках.

**(ця)**

(Працяг са стар. 1)

# З песняй лягчэй...

рукі і гаварылі пра тое, што чакае нас пасля канікулаў. Я збіраўся ехаць у прафесіянальна-тэхнічную школу, а яна хацела быць настаўніцай, як Марыя Мікалаеўна, наша настаўніца, якая прыехала да нас з далёкага Гомеля. Расставацца нам не хацелася. Я мацней пацісннуў яе руку, а Поля ціха заспявала:

*„Мы простимся с тобой у порога,*
*Ты мне счастья пожелай...“*

А праз некалькі гадзін... вядома, што здарылася ў нядзелю на досвітку. 22 чэрвеня 1941 года... Мне тады пайшоў ужо семнаццаты год, а яна распачынала шаснаццаты. Не здзівіцеся, што ў такім узросце мы толькі закончылі пачатковую школу. У час даваеннай Польшчы сямігодкі ў нашай вёсцы зусім не было. Я тры гады хадзіў у чацверты клас. Не таму, што дрэнна вучыўся, але таму, што такі быў закон. Праўда, пайшоў я ў школу на дзевятым годзе жыцця, бо раней не было ані вопраткі, ані абутку. Затым давялося адзін год прапусціць, бо бацька згадзіў мяне ў пастушкі да аднаго каланіста.

А неўзабаве, не па сваёй волі, апынуўся я ў аднаго прускага баўэра. Калі набліжаўся фронт, сабралі ўсіх нас разам і пагналі ў тадышні Кенігсберг. Пад наглядам гестапа капалі мы супрацьтанкавыя траншэі, прабівалі падземныя праходы між пограбамі паасобных дамоў. Голад, праца не пад сілу і знуткаванні... Проста жыць не хацелася...

Успомніў я пра ўсё гэта, калі пачуў вось гэты, як жа мне знаёмы, напеў:

*Я вам не скажу про всю Одессу,*
*Вся Одесса очень велика,*
*Но и Молдаванка, и Пересы*
*Уважают Костю-моряка...*

Упершыню пачуў я гэтую песню менавіта там у Кенігсбергу. У час рэдкіх хвілін адпачынку спяваў яе адзін белабрысы адэсіст, якога мы так і празвалі Косцем-мараком. Я з ім пасябраваў і, калі ўжо Савецкая Армія акружыла Кенігсберг, калі пачалі безупынку разрывацца бомбы і снарады, і калі раз'юшаныя гітлераўцы без прычыны стралялі ў затылак, рашылі мы прарвацца да сваіх. Але свае прынялі нас... насцярожана. Проста заперлі ў падвал. Адкуль жа было ім ведаць, ці мы катаржнікі, ці шпіёны? Вось там, у гэтым своеасаблівым арышце, які пасля перажытага выдаўся нам раем, я ўпершыню пачуў яшчэ адну з гэтых песень, якія апынуліся цяпер на пласцінцы Марка Бернеса. Яна плыла з гучнагаварыцеля:

*Тёмная ночь,*
*Только пули свистят по степи,*
*Только ветер гудит в проводах,*
*Тускло звёзды мерцают.*
*В тёмную ночь*
*Ты, любимая, знаю, не спишь*
*И у детской кроватки тайком*
*Ты слезу утираешь...*

Параненага Косцю-марака адаслалі ў шпіталь, а мне давялося свой гонар апраўдаць уласнай кроўю. Павёў я разведгрупу назад у Кенігсберг. „Не падведзёшь, — гаварыў мне нейкі афіцэр, —



 

 

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

### СЯРГЕЙ КІЧКАЙЛА

Паходзіць ён з Дубін, што каля Гайнаўкі. Гэта чалавек у сіле веку. Яму цяпер 35 год.

— У 18 год прынялі мяне ў былы ГОМ памочнікам трактарыста. А трактарыстам быў глуханямы чалавек — Аляксандр Храбол з Гайнаўкі, ад якога здабыў я многа ведаў і навучыўся любіць тэхніку, — расказвае нам Сяргей Кічкайла. — З таго часу мяне цягнула туды, дзе рамантуюцца і аднаўляюцца машыны.

Сяргей Кічкайла ажаніўся ў 20 год і як прымак перайшоў жыць да жонкі Валі ў вёску Збуч. Прыдбалі ўжо дзесяцёра дзяцей. Тут, у Збучы, пачаткова працаваў ён на малацільным агрэгаце, а пазней механікам сельгасгуртка. Тут яго тэхнічныя здольнасці сталі асабліва праяўляцца. Рамантаваў ён усе сельскагаспадарчыя машыны ўключна з самаходамі і трактарамі. А калі ў каго-небудзь папсуецца матацыкл, дык заўсёды просяць, каб рамантаваў яго Кічкайла.

Сяргей Кічкайла запрашае паглядзець цікавую творчасць сваіх рук і галавы. А з'яўляецца ёю трактар, зроблены ім чатыры гады таму назад. Праўда, выгляд яго не такі ўжо прыгожы ў параўнанні з фабрычным, але працуе ён добра. Цягне два плугі, моцны, не псуецца.

Аднойчы каля Збуча сапсаваўся аўтобус ПКС. Шафёр не ведаў, што зрабіць. Папрасіў ён Сяргея Кічкайлу, які хутка наладзіў „скрыню бегаў", і самаход павёз пасажыраў далей.

Сяргей Кічкайла плануе адкрыць самаходны рамонтны варштат, які пры такой рухлівай шашы нават патрэбны.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### У НАРАЎСКІМ ГСе

У ГСе ў Нарве да найлепшых работнікаў належаць: Валянціна Кур'яновіч, д. Канстанціна, — кіраўнічка абутковай крамы, Валянціна Кур'яновіч, д. Васіля, — кіраўнічка крамы з механізаваным хатнім абсталяваннем, Юзэф Паскробка — загадчык пункта скупкі валакна і воўны, Мікалай Якімюк — кіраўнік крамы ў Крыўцы, Станіслаў Францковяк — кіраўнік крамы з таварамі для сельскагаспадарчай прадукцыі, Тадэуш Катовіч — загадчык склада паўторнай сыравіны і металалому, Пётр Вяжбіцкі — старшы загадчык збожжавага склада, Зінаіда Данілюк — рэферэнтка па справах самакіравання і кадраў, Мікалай Касько — шафёр.

*

Нараўскі ГС сёлета аднавіў пяць крамаў: у Нарве, Васьках, Адрынках і Гародчыне, бюровы будынак у Нарве, рэстаран, клуб селяніна і цэнтр „Сучасная гаспадыня", адрамантаваў печ у пякарні, у якой механізавана праца пры прадукцыі дробных хлебабулачных вырабаў.

*

Нараўскі рэстаран прадае ў сярэднім 36 100 порцый рэгенерацыйных супаў у год. Карыстаюцца імі рабочыя розных прадпрыемстваў і ўстаноў у гміне.

Работнікі рэстарана вядуць сваю тучарню свіней на 70 месц і на сваіх палетках вырошчваюць авёс і агародніну.

### СКР У ЮХНОЎЦЫ

Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Юхноўцы паспяхова развівае жывёлагадоўлю. Мае 60 букатаў і 1300 свіней. Дзяржаве прадае не менш 260 тон мяса. Кармы для свойскай жывёлы нарыхтоўвае, выкарыстоўваючы 22 гектары ўласных зялёных угоддзяў. Апрача таго, збірае яшчэ канюшыну з 10 га і кукурузу з 15 га. **(ця)**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

СЯМЕЙНАЯ




*Як я была сем лет дзеўчыною,*
*то й ні чула ножок пад сабою,*
*то й ні чула ножок пад сабою.*
*Як я пашла за ліхого мужа,*
*то я й стала за рочок нідужа,*
*то я й стала за рочок нідужа.*
*Стаў он мэнэ дубіною біці,*
*сталі жэ мне плечэнькі балеці,*
*сталі жэ мне плечэнькі балеці.*
*— Умру, мілы, я й ні буду жыці,*
*умру, мілы, я й ні буду жыці.*
*Пашый, мілы, з папэру сарочку,*
*схавай, мілы, у вішнёвум садочку,*
*схавай, мілы, у вішнёвум садочку.*
*Пасадзь, мілы, у галоўцы каліну,*
*у канцэ ножок — зэлёну руціну,*
*у канцэ ножок — зелёну руціну.*
*Будзеш, мілы, сыночкі жаніці,*
*прыдзеш, мілы, каліны ламіці,*
*прыдзеш, мілы, каліны ламіці.*
*Будзеш, мілы, дочкі аддаваці,*
*прыдзеш, мілы, руціны шчыпаці,*
*прыдзеш, мілы, руціны шчыпаці.*
*Будзеш, мілы, мэнэ пробуджаці,*
*будзеш, мілы, мэнэ пробуджаці:*
*— Уставай, міла, мэншы сынок плачэ,*
*уставай, міла, мэншы сынок плачэ.*
*— Ніхай плачэ, ніхай прыплакуе —*
*ніхай знае, што маці не мае,*
*ніхай знае, што маці ні мае.*
*— Уставай, міла, мне жытко ўрадзіло,*
*уставай, міла, мне жытко ўрадзіло.*
*— Ніхай родзіт, хоць у трубы ўецца,*
*мае сэрцэ да це ні вернецца,*
*мае сэрцэ да це ні вернецца.*

Ад Аляксандры Бонкард, 1909 года нараджэння, вёска Стачок каля Нараўкі, запісаў 6 сакавіка 1978 года Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## З маёй званіцы

— Даўней-даўней гэтай дарогі тут не было. Ішла крыху бокам. Гасцінцам у нас яе называлі. А тут нічога — сцяжынкі, поле. А там ужо, пачынаючы ад Пасынак і Сакоў, пад самыя Катлы балоты цягнуліся. Дрыгва нармальная. З купіны на купіну скакаць трэба было, каб прайсці. Во як тут было. А як зрабілі дарогу і ездзіць пачалі, дык як праедзе машына, то дарога так і дрыжыць, усё роўна як кісель. Зараз можна нават адчуць.

Так успамінаюць людзі месца, дзе зараз шаша з Бельска ў Нараў праходзіць. Але ці гэта шаша? Не, гэтак мне проста сказалася. Ніякая гэта не шаша. Што была некалі — гэта праўда. У грудзі магу біцца. Была, сам памятаю. Роўная, брукаваная. Дрэвы вялізныя, удваіх абхапляць трэба было б, па баках раслі. Стаялі, быццам волаты, быццам вартавыя нейкія. Але яшчэ новых і садзіць не пачалі, як ужо іх пазрэзвалі. Так што ў тым, што шаша тут была, сумненняў няма. Кожны гэта падтрымае. Але ўжо добрых некалькі год як дарога мсціцца пачала. Каменнем плюе, вырвамі шчырыцца, злосць страшэнную паказвае. Ну, проста свінствы людзям робіць. Едзеш машынай. Здаецца, усё нармальна. Спакойна, як у сонечны дзень. Аж тут раптам — грак і пайшоў угору — толькі ў машыне нешта затрашчала. Не паспееў выскачыць, як у другую калдобіну праваліўся, аж нешта ў сярэдзіне клёкнула. Мсціцца дарога на кожным кроку. І так аж да самых Клейнік. Далей крыху спакайнейшая. Што каля Пасынак і Катлоў, дык можна было б яшчэ неяк зразумець. Можна было б падумаць, што, проста асушаная дрыгва, пачуўшы сілу з асенняй хляпаўкай ці вясеннімі растопамі, мсціцца за сваю крыўду пачала. Але за што іншыя церпяць? Як тут і не меркавалі людзі, а нічога канкрэтнага прыдумаць не змаглі. Не дзіцё ж гэта, што ўзяў і да шаптухі завёз ці нейкімі сваімі забабоннымі спосабамі падлячыў. Тут добры хірург патрэбны. А лекары, хоць ты лопні, зусім не цікавяцца. Не прыязджаюць і ўсё. Як ты іх не прасі, а ім хоць бы дзічкі. Так як бы іх зусім гэта не цікавіла, як бы не да іх гэта належала. Часам недзе там паявіцца. Смалярка прыедзе і іх з дзесяць. Стануць над калдобінай, думаюць-думаюць, дый заляпаюць смалой і паедуць назад. Падлячылі ўжо, значыць. А дарога праз некалькі дзён другой вырвай вышчырыцца. Усё роўна, як бы смяялася з Раёна эксплуатацыі публічных дарог у Бельску Падляшскім — пляваць мне, моў, на вашае ладжанне, ерунда ўсё гэта. І далей стаіць павышчэрбліваная. Не дарога, а мяжа нейкая, што аддзяляе суседнія палеткі, з якой адзін сусед пад няўвагу другога колькі можа, столькі і ўскубне. І калі так далей, дык да таго даскубаюцца, што і след па ёй прападзе.

**Бізун**

поверим и орден получишь". Горад я ведаў добра. Лезлі мы па яго развалінах, як каты. Пад канец дарогі, у адным з падвалаў, напароліся на невялікую групу немцаў. „Ну, боролся ты хорошо!" — ацаніў пасля мае паводзіны наш камандзір і рашыў, каб я астаўся ў яго атрадзе. Такім чынам стаў я чырвонаармейцам.

*Эх путь-дорожка, фронтовая,*
*Не страшна нам бомбёжка любая.*
*Помирать нам рановато —*
*Есть у нас ещё дома дела...*

Ваяваў я нядоўга, але ўсяго ўбачыць давялося, асабліва ў прыбалтыйскіх разлівах, у акопах, затопленых вадой...

*В жизни очень часто так случается:*
*По весне, когда расстает снег,*
*На пути на жизненном встречается*
*С человеком человек.*

З маёй Палашкай сустрэўся я зноў пасля дэмабілізацыі і зараз жа мы пажаніліся. А песні Марка Бернеса і па сённяшні дзень спадарожнічаюць нам у жыцці. „Я люблю тебя, жизнь", „Течёт Волга...", „Хотят ли русские войны?", або задушэўныя і адначасова трывожныя „Журавли". Як забыць гэтыя песні? Яны ж — жыццё наша.

**Максім Нурэцкі**

## Сяброўская сустрэча

З нагоды 20 гадавіны радыёперадач на беларускай мове ў Польскім радыё, Галоўнае праўленне БГКТ 12 чэрвеня гэтага года наладзіла ў сваёй сядзібе сяброўскую сустрэчу, у якой прынялі ўдзел: старшыня ГП БГКТ **Мікалай Самоцік**, намеснік старшыні, галоўны рэдактар „Нівы" **Георгій Валкавыцкі**, сакратар ГП БГКТ **Янка Зенюк**, загадчык культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ **Людміла Васілюк**, галоўны рэдактар Беластоцкага Радыёвяшчальнага цэнтра Польскага радыё і тэлебачання **Януш Веранічак**, яго намеснік **Анна Маркова**, адказны сакратар Беластоцкага радыё **Кшыштаф Вуйтовіч**, журналісты: **Вера Валкавыцкая**, **Station Пазнанскі** і **Віктар Рудчык**.

Старшыня Самоцік ад імя Прэзідыума ГП БГКТ уручыў Янушу Веранічаку **медаль 20-годдзя БГКТ** і **прывітальны ліст**, у якім перш за ўсё адзначае шматлікія грамадскія карысці, што для жыхароў Беласточчыны выплываюць з перадач на беларускай мове. Кіраўніцтва і журналісты радыё выказалі сваю ацэнку гэтых перадач і падзяку Галоўнаму праўленню БГКТ за пастаяннае супрацоўніцтва і дапамогу ў іх апрацоўцы.

Сустрэча прайшла ў сардэчнай, сяброўскай абстаноўцы.

**(вр)**

Фота аўтара



*Старшыня ГП БГКТ М. Самоцік (злева) уручае Я. Веранічаку прывітальны ліст.*

## Найлепшыя ў спаборніцтве працы

Аддзел выдавецка-распаўсюджвальнага прадпрыемства РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" у Бельску Падляшскім падвёў вынікі спаборніцтва працы сярод кіяскёраў і кіраўнікоў клубаў кніжкі і прэсы „Рух" за 1977 год.

Першае месца занялі прадаўшчыцы Эмілія Весялоўская і Галена Дамброўская з Бельска, другое месца заняла Ірэна Мартыновіч з Орлі і трэцяе месца занялі Вера Пуцько і Ірэна Баена з Сямяціч. Чарговыя месцы за імі занялі прадаўшчыцы: Феліцыя Масевіч з Бельска, Міхаліна Павелчук з Драгічына, Лідзія Барвюк са Старога Корніна, Марыя і Галіна Кудрын з Бельска і Генавефа Маскалюнец з Нурца.

Пераможцам у спаборніцтве Э. Весялоўскай і Г. Дамброўскай з Бельска быў ўручаны пераходны сцяжок дырэктара і рады прафсаюзаў бельскага аддзела РСВ „Прэса-Кніжка-Рух". Усе спамянутыя прадаўшчыцы з кіёскаў і клубаў „Рух" атрымалі рэчавыя ўзнагароды.

**Я. Целушэцкі**



 




ФОТА-РЭТРА

Беласток да першай сусветнай вайны. Вуліца Ліповая. Рэпрадукцыя А. Здрадоўскага.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Нядаўна прысніўся мне сон. Быццам я была на забаве ў вёсцы (у якой няма святліцы), а мне прыснілася, што ў гэтым сяле ёсць святліца. Мне сніцца, што мне гаворыць хлопец (я яго бачыла, але не ведаю), які падабаецца маёй сяброўцы (з ёй я вучуся ў адным класе), каб я з ім выйшла. Калі мы выйшлі, то ён сказаў, каб паглядзець, ці не ідзе гэтая мая сяброўка. Потым мы ўбачылі, што яна ідзе полем, а не дарогай, і нясе гітару. Калі ён убачыў яе, то сказаў мне, што яна яму падабаецца, але каб я ёй не гаварыла, і сам уцёк. А калі яна ішла з гітарай, то не пайшла ў святліцу, а занесла гітару на воз. Я пайшла да яе і сказала, што гаварыў гэты хлопец. Яна мне тады сказала, што ідзе бліжэй яго. На гэтым скончыўся мой сон.

Астроне, можа трэба будзе асцярожна пaступаць сяброўцы ў адносінах да гэтага хлопца, то напішы, мая сяброўка таксама чакае адказу.

Марыся

**Марыся!** Сон твой сведчыць сапраўды аб тым, што твая сяброўка перажыве нейкую любоўную прыгоду, звязаную з небяспекай для закаханых (ішла яна полем і несла гітару). А што будзе гэта хісткая і няпэўная справа, пацвярджае і тое, што занесла яна гітару на воз.

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Ад 1947 г. Г. арандаваў ад дзяржавы пляц. На пляцы пабудаваў будынак, а астатнюю частку выкарыстаў як агарод. Цяпер гарадская ўправа намерана забраць гэты пляц. Ці Г. можа дамагацца сцвярджэння набыцця ўласнасці пляца праз даўнасць? Калі не, то ці можа ён патрабаваць прызнання ўласнасці на той аснове, што ён пабудаваў будынак, які больш варты, чым пляц? Пры адмоўным адказе ўзнікае пытанне, што будзе з будынкам, калі дзяржава забярэ пляц?

АДКАЗ: Уласнасць праз даўнасць можа набыць толькі самастойны ўладальнік, г. зн. такі, які валодае нерухомай маёмасцю так, як бы сапраўды з'яўляўся ўласнікам. Г. як арандатар з'яўляецца ўладальнікам залежным, таму не можа ён набыць уласнасць праз даўнасць незалежна ад таго, колькі год ён пляцам валодаў. Дзяржаўную нерухомую маёмасць наогул нельга набыць праз даўнасць. Калі б Г. быў самастойным уласнікам, то мог бы патрабаваць прызнання права ўласнасці на той аснове, што пабудаваў на пляцы будынак. Але і ў гэтым выпадку дзяржава магла б на гэта не згадзіцца і забраць пляц, заплаціўшы за будынак так, як пры эксплуатацыі. У нашым прыкладзе Г. як залежнаму ўладальніку гэткае права наогул не прыслугоўвае. Г. можа забраць свой будынак, а калі б дзяржава хацела яго затрымаць, павінны заплаціць столькі, наколькі будынак павялічвае вартасць нерухомай маёмасці.

**Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы“**




### ЯК ЧЫСЦІЦЬ ДЫВАНЫ І МЯККУЮ МЭБЛЮ

Вясна і лета — найлепшая пара, каб заняцца парадкамі ў хаце. Цёпла і сонечна, таму можна добра праветрыць многія хатнія рэчы, а што трэба, дык і пачысціць і памыць.

Сёння не ў адной вясковай хаце стаіць мяккая мэбля — канапы і крэслы, а дываны ўбачыш не толькі на сцяне. але і на падлозе. Іншая справа, што на вёсцы і брудзяцца яны хутчэй, бо забыўшыся, можна ступіць на такі дыван нагой у рабочым боце і застанецца тады пляма. Але сёння з гэтым няма клопату. Розных сродкаў для чышчэння, мыцця і шаравання гаспадарчая хімія выпускае ўсё больш. Падабраўшы адпаведны прэпарат, можна і працу выканаць добра, і сілы заашчадзіць.

Для чышчэння дываноў і мяккай мэблі (тканіны, якой яна пакрыта) найлепш падыходзяць вадкія прэпараты „Pianka“, „Dywanol“, „Pers“. Тканіны ці дыван, якія чысцяцца імі, набіраюць ізноў жывога колеру, а ўсе тлустыя плямы знікаюць бясследна. Пенай з гэтых прэпаратаў націраем тканіну ці дыван, а асад, які астаецца, збіраем, калі ўжо высахне, пыласосам або нейкай вострай шчоткай.

У апошні час сустракаецца шмат крэслаў і канапаў, выкладаных пад дэкаратыўным матэрыялам губкай. Асвяжаючы такую мэблю, трэба сачыць за тым, каб не прамачыць тканіны, бо тады па ёй могуць выступіць трывалыя плямы. Калі дэкаратыўны матэрыял на мэблі зроблены з сінтэтычнага валакна, то перад тым, як будзем чысціць, варта ў мала відочным месцы зрабіць пробу: праверыць, ці матэрыял не страціць колеру і ці не парвецца. Калі проба будзе некарысная, варта прымяніць іншы з названых тут прэпаратаў. Кожны ж з іх мае іншы хімічны склад, і таму інакш уздзейнічае на тканіну.

**Гаспадыня**



## Сэрдэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я ў гэтым годзе атрымала атэстат сталасці. Хаджу я з Міркам, які вучыцца ў палітэхнічным інстытуце. Мірэк часта бывае ў нашым доме. Бацькам ён таксама падабаецца. І вось нядаўна Мірэк запрасіў мяне прыехаць да яго на дзень нараджэння. А мама не дазваляе. Кажа, што непрыстойна дзяўчыне наведваць хлопца, ды яшчэ калі ён жыве недзе ў іншым горадзе. Мірэк гаворыць, што яго бацькі таксама хацелі б убачыць дзяўчыну, з якой ён ходзіць. Да дня нараджэння Мірка яшчэ ёсць крыху часу і можа ты паспееш, Сэрцайка, надрукаваць мой ліст і выказаць свой погляд на гэтую справу.

Аня з Б.

Аня! Нейк ужо так усе прызвычаіліся, што хлопцы наведваюць дзяўчат, а ўжо нетактоўна, калі дзяўчына наведае хлопца. Погляд устарэлы. Мо гэта спадчына таго, што калісь дзяўчыну выдавалі замуж без яе згоды. Хлопец прыязджаў, з бацькамі справа вырашалася, ну, і дзяўчына вымушана была выходзіць замуж. Другая справа. Мамы заўсёды дрыжаць за сваіх дачок, калі яны пачнуць цікавіцца хлопцамі. Маладой дзяўчыне лёгка зрабіць памылку, праз якую яна можа змарнаваць сабе жыццё. І каб пазбегнуць гэтага, мамы хацелі б мець заўсёды дачку „на воку“. Але чым далей, тым меншая магчымасць гэтага кантролю і адначасова павінен быць большы самакантроль і адказнасць за свае ўчынкі саміх дзяўчат.

**Сэрцайка**




Яны разам спусціліся ўніз і спыніліся ля ганка. Ноч шчыльна абступіла іх. Цяпер, калі яны не ведалі, ці ўбачацца зноў, Ткачэвіча пакінула звычайная стрыманасць.

— Ну, Міша! — сказаў ён. — Будзь асцярожны! Я яшчэ хачу выпіць на тваім вяселлі!...

Ён зрабіў крок улева і знік у цемры. Міша пачакаў, пакуль сціхнуць яго крокі і, перайшоўшы дарогу, пералез праз кучу старых труб.

Якое шчасце, што ён так добра вывучыў порт! Некалькі разоў Міша ледзь не наткнуўся на патрулёў, а калі наблізіўся да прычала, чуйны сабака люта забрахаў і пачаў кідацца ў той бок, дзе ён схаваўся.

Салдат крыкнуў на сабаку і адцягнуў яго ўбок.

Фёдарава Міша знайшоў у драўлянай дзяжурцы на краі прычала.

Зімой у гэтай будцы грэліся вартавыя, а летам у яе звычайна скідвалі ўсялякі хлам. Драўляны стол, які стаяў ля разбітага акенца, ніколі не высыхаў ад разлітага віна.

Яшчэ напярэдадні Міша дамовіўся з Фёдаравым аб тым, што той будзе кожны вечар чакаць яго прыходу. Пасля вячэрняй праверкі звычайна ў казарме ніхто салдат не правярае, а ў апошнія дні ўжо і пра вячэрнія праверкі забыліся. Але, па праўдзе кажучы, Міша не вельмі верыў у тое, што ў гэтага хударлявага хлопца з чорнымі хуткімі вачыма хопіць вытрымкі і жадання выканаць іх угавор.

Міша ціха падышоў да будкі і асцярожна зазірнуў у акно. Яму здалося, што там нікога няма. Але чалавек, які прытаіўся ў цемры, пачуў яго крокі і варухнуўся.

Міша пачуў гэты ціхі шолах у будцы. Хто ж там: сябар ці вораг? Цяпер выйграе той, у каго больш вытрымкі. У Мішы, вядома, ёсць яшчэ магчымасць уцячы, але дзе гарантыя таго, што яму не пашлюць кулю ў спіну?

І тут адбылося тое, чаго ён менш за ўсё мог чакаць. Страшэннае чханне скаланула тонкія сцены будкі.

— Сяргей, гэта ты? — ціха спытаў Міша.

— Я, — пачуўся голас з цемры. — Вось, халера, спалохаў мяне да смерці!..

Праз хвіліну яны ўжо разам прабіраліся ўздоўж прычала, Міша трымаў у руках доўгі кавалак тонкай жалезнай трубы з загнутым канцом, якую Фёдараў адшукаў у кучах ламачча, а ў кішэні ў яго ляжаў востры армейскі нож.

— Ты ідзі на адзінаццаты прычал, — ціха сказаў Міша.

— Навошта?

— Як навошта? Правады рэзаць!

— А я ўжо абрэзаў! — сказаў Фёдараў. — Ты загані палку глыбей, падчапі ёю провад, выцягні наверх. І р-раз! Як галаву курыцы! Толькі не забудзься потым загнуць канцы ў розныя бакі, каб пад зямлёй зноў кантакт не атрымаўся.

„Набіў руку! — падумаў Міша. — І так усё яму проста! Без падрыхтоўкі і без перажыванняў“.

Яны наблізіліся да павароту; у выпадку раптоўнага з'яўлення патруля адсюль адразу ж можна непрыкметна знікнуць.

— Давай тут, — прапанаваў Міша. — Якраз адсюль провад ідзе на дваццаты прычал.

Палка бясшумна ўвайшла ў зямлю, як лыжка ў густы мёд. Але правады Міша змог падчапіць толькі на трэці раз. Хуткімі, амаль сутаргавымі рухамі правёў па іх нажом, але яны былі вельмі тоўстыя. Нарэшце голы провад лопнуў. Міша хутка загнуў канцы ў розныя бакі, з другім давялося паваждацца. Вось нарэшце яшчэ два канцы загнуты пад вострым вуглом.

— Цяпер назад запхні! — пачуў ён шэпт Сяргея. — Ну і нервы ж у гэтага хлопца!

Міша палкай запхнуў провад глыбей у зямлю і прытаптаў яе.

— А цяпер разрыхлі! А то ўбачаць раніцай, дзе затаптана, і пачнуць правяраць!

Не, гэты Фёдараў, напэўна, вырашыў тут адкрыць курсы па падрыхтоўцы спецыялістаў!.. Міша некалькі разоў правёў палкай па верхняму пласту зямлі.

Назад яны вярнуліся праверанай ужо дарогай. Фёдараў паслухмяна пералазіў следам за Мішкам кучы ламачча, але яму увесь час не шанцавала: то нагу ўдарыў, то схапіўся за востры выступ і

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### НОВЫ ГУРТОК, НОВЫЯ АБАВЯЗКІ

У вёсцы Войнаўка моладзь стварыла гурток СЗМП. На сходзе прысутнічалі: Г. Шварц — старшыня гміннага праўлення СЗМП і М. Самасюк — старшыня гміннай рэвізійнай камісіі. 20 новых членаў яны пазнаёмілі са статутам. Таксама быў апрацаваны супольна план працы, у якім асабліва падкрэсліваецца неабходнасць пабудовы святліцы ў сваёй вёсцы. Хлопцы і дзяўчаты абавязаліся цвёрда выканаць план.

Старшынёй новага гуртка выбраны Уладзімір Саевіч, с. Міхала, намеснікам — Сцяпан Андрасюк-Саевіч, касірам — Ніна Цяцёрка.

**М. Панфілюк**

### СТАЦЬ КВАЛІФІКАВАНЫМ!

У першых днях чэрвеня ў Дубічах Царкоўных зноў адбыліся экзамены па праграме школы для кваліфікаваных гаспадароў. Вучоба ішла амаль усю зіму. Слухачоў было 40 асоб з Дубіч і іншых вёсак. Заняткі праводзілі ўсе працаўнікі нашай гміннай сельскагаспадарчай службы. Загадчыкам школы была Раіса Старасельнік. Усе ўдзельнікі — хлопцы, дзяўчаты і мужчыны — атрымалі поўныя веды па сельскай гаспадарцы, сталі кваліфікаванымі гаспадарамі.

**М. Панфілюк**




### ЛЕТАМ РАННЯЙ ПАРОЙ

*Та ўставай, дружа мой,*
*Рана летняй парой,*
*Сон адкінь ад сябе, не крывіся.*
*Глянь, як ў ранняй красе*
*У сэрцы радасць расце,*
*І ты разам ідзі, весяліся*
*Той дарожкай касой,*
*Сярабрыстай расой,*
*Што кладзецца па роднай зямліцы.*
*Там ад нівы раднОй*
*Пах нясе збажынай,*
*Колас шэпча свае таямніцы,*
*Там з-за горкі тае*
*Ціха сонца ўстае*
*І глядзіт на свет белы, смяецца.*
*Яму зязюля куе*
*І салоўка пяе,*
*Аж ў турткоткі галоўка трасецца.*
*Глянь за той паплавец,*
*Дзе дубок-маладзец —*
*Там адвечна бурліцца крыніца,*
*Вада чыста кіпіт,*
*Густы ельнік шуміт,*
*Рана гасне начная зарніца.*
*Выйдзі, выйдзі, дружок,*
*У той гай, дзе лужок,*
*То ён — горад птушынага лета.*
*Ты падумаеш: рай —*
*Гэта толькі наш край,*
*І прырода, чароўніца света!*
*А калі, браце мой,*
*„Водпуск“ скончыцца твой,*
*Ты пакінеш красуню-зямліцу*
*І прыроду яе,*
*Стуліш вочы свае*
*І адыдзеш спаць вечна ў цямніцу.*

**А. Леўшук**

сарваў скуру на далонях. Нарэшце, недзе на палове дарогі вылаяўся і рашуча сказаў, што будзе да казармы дабірацца сам і што ўжо нагледзеў сабе месца, дзе зможа перачакаць, пакуль немцы пакінуць Адэсу.

Яны развіталіся. І Міша, ужо адзін, прайшоў астатнюю частку дарогі значна хутчэй, шчасліва пазбегнуўшы небяспечных сустрэч.

Ткачэвіч чакаў яго. Калі Міша зайшоў да яго ў кабінет, ён радасна ўсміхнуўся.

— Ну, як, нахваляваўся? Напэўна кілаграмаў дзесяць страціў?

— За пяць ручаюся! — Міша прысеў да стала. — Дайце закурыць.

Ткачэвіч падаў яму цыгарэты і паглядзеў на яго рукі.

— Чым ты рэзаў?

— Палкай і нажом, — адказаў Міша.

— Куды ўсё падзеў?

— Палку кінуў. А нож Фёдараў забраў.

— Ён з табою разам рэзаў?

— Не, на адзінаццатым прычале паспеў да мяне парэзаць.

Міша пайшоў да рукамыйніка і старанна вымыў рукі, клапоцячыся аб тым, каб пад пазногцямі не засталося зямлі. Вялікая справа — асцярожнасць і прадбачлівасць!

(Працяг будзе)

## Белавежскія балячкі

Часта звяртаюцца да мяне жыхары Белавежы з просьбай, каб закрануць на старонках „Нівы“ важныя для іх (ды не толькі для іх) справы. У апошні час найбольш было сігналаў аб дрэннай працы мясцовага водаправода. Даслоўна кожныя тры-чатыры, а часам і больш дзён выступаюць перарывы ў даставе вады. Людзі не могуць ні карыстацца купальнямі, ні паліць у пліце (у якой ёсць абсталяванне для падаграванння вады). Працягваецца гэта ўжо даволі доўга. Сапраўды пара, каб ліквідаваць прычыну гэтых аварый! Людзям надакучыла плаціць за ваду, якой не маюць.

Другую справу сігналізавалі мне жыхары пасёлка Падаляны. Маюць яны клопат з дастаўкай малака. Паабяцалі ім давесці да канца справу зліўнога пункту, ды нічога не выйшла з гэтых абяцанак. Той, хто павысіў пагалоўе дойных кароў, плюе сабе цяпер у бараду. Даводзіцца карміць малаком парасят, бо найбліжэйшы зліўны пункт аж у Пагарэльцах.

І трэцяя справа. Няма ў Белавежы месца, дзе можна было б белавежцам ці жыхарам з навакольных сёлаў прадаваць агародніну. У міжваенны перыяд рынчачная плошча ў Белавежы існавала, чаму нельга яе зрабіць цяпер? Калі прыйдзе сезон на агуркі, памідоры, капусту, у мястэчку пазапіханы прадаючымі ўсе бакавыя вуліцы і завулкі. А не лепш на продаж было б падрыхтаваць нейкае адно месца? І лягчэй жа ўтрымаць чысціню, і не трэба бегаць па розных закутках шукаць, што і дзе купіць.

**П. Байко**

### ПРА ШКОЛУ ІМЯ А. ФЛАРЭНКІ

Уся ўсходняя частка горада Гайнаўкі і пражываючыя там дзеці звязаны з пачатковай школай № 2 імя А. Фларэнкі. Школа гэта новая, школа 1000-годдзя. Папрасіў я дырэктара школы Сяргея Харкевіча, каб коратка расказаў мне пра сваю школу.

У гэтым годзе ў школе вучылася 726 вучняў з пасялковых камітэтаў 4 і 5. Вучобу вядзе 31 настаўнік з поўнай педагагічнай падрыхтоўкай. Добрай была праца нашых педагогаў — вучні з узорнай ацэнкай складаюць 23 прац. усіх вучняў школы.

У школе працуе плённа гарцэрская арганізацыя. Ёсць тут 7 гарцэрскіх і 7 зуховых дружын.

Гарцэры прымалі шырокі ўдзел у турніры грамадзянскіх ведаў, які праходзіў пад лозунгам „Сацыялізм змяняе свет“, у іншых мерапрыемствах, уключаюцца ў працу для школы і асяроддзя.

Гістарычным ужо з'яўляецца тут школьны хор, які часта выступае і ў горадзе. Школьны гурток ТППР утрымлівае плённыя кантакты з школьнікамі з Савецкага Саюза. Прымаюць удзел у конкурсе савецкай песні. У гэтым годзе вучаніца школы № 2 Анна Радзікоўская заваявала І месца ў горадзе ў мастацкім чытанні вершаў савецкіх паэтаў. За сваю дзейнасць гурток ТППР школы № 2 у Гайнаўцы атрымаў залаты знак.

Школа мае вялікія дасягненні і ў спорце. 4 дружыны хлопцаў і 5 дружын дзяўчат выступілі ў ваяводскіх спаборніцтвах па валейболу. Хлопцы заваявалі І месца, дзяўчаты — другое, занялі таксама І месца ў ваяводстве па чатырохбор'ю.

Бацькі, дзеці якіх вучацца ў школе № 2, рады поспехам сваіх дзяцей і ўдзячны настаўнікам.

**Вайсковіч**

### ПЕРШЫЯ ГАСПАДАРЫ ГОРАДА

У маі закончылася кадэнцыя пасялковых камітэтаў і былі праведзены новыя выбары. У Гайнаўцы быў павялічаны лік камітэтаў — першых гаспадароў горада. Замест 6 камітэтаў выбрана 9 — больш прыстасаваных да асяроддзя. У члены камітэтаў увайшло больш 200 актывістаў, якія кожны дзень будуць рашаць праблемы горада. Вялікую дапамогу камітэтам заўсёды аказвае ст. інспектар Ірэна Кучкіц, за што ёй шчырае дзякуй.

Старшынямі паасобных камітэтаў сталі: Іван Бірыцкі — пасялковы камітэт № 1, Язэп Вышынскі — № 2, Віталі Семяняка — № 3, Эдмунд Вайсковіч — № 4, Аляксандр Каламыцкі — № 5, Юрка Панасюк — № 6, Баляслаў Суліма — № 7, Сцяпан Паленнік — № 8, Здзіслаў Дарашкевіч — № 9.

**Вірскі**

## Канцэрт пад голым небам

Каля Дома культуры чыгуначнікаў збіраюцца грамадамі людзі. На сцэне, пад бярозамі, музыканты ў зялёных, вайсковых мундзірах рыхтуюць інструменты. Будзе канцэрт.

Ансамбль ВОП „Граніца“ з Варшавы завітаў у Чаромху па запрашэнню мясцовых дзеячоў культуры. Не першы гэта канцэрт у Чаромсе гэтага калектыву. Чыгуначнікі добра памятаюць гасцей з мінулагодніх выступленняў. Таму гэты канцэрт не патрабаваў большай рэкамендацыі.

Пагранічнікі далі два канцэрты. І на кожным з іх была шматлікая аўдыторыя. Артысты не падвялі. Паказалі высокі ўзровень выканаўства, багатую праграму. Прыемна было паглядзець такі канцэрт. Шкада толькі, што праграма была кароткая. Больш такіх калектываў трэба запрашаць у Чаромху!

**(ус)**



## Чалавек, які перажыў фашысцкае пекла

Пра гэтага чалавека я ўжо даўно хацеў напісаць, пра яго слаўны баявы шлях. З'яўляецца ім Марк Троц — селянін з вёскі Рудуты, Арлянскай гміны. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў далёкай Калузе, у бежанстве. У міжваеннай Польшчы жылося бедна, сям'я была вялікая — 7 братоў і 3 сястры, а зямлі нямнога. Бацька часта наракаў: навошта было вяртацца з Расіі...

Восенню 1940 года Марка прызываюць у Савецкую Армію. Служыць верна да канца вайны. А служыць у армію паслалі далёка — аж у Мурманск ля Белага мора. Прырода тут суровая, толькі людзі моцнага складу маглі тут служыць, і такім быў Марк Троц.

Недзе ў пачатку красавіка 1941 года прыехала спецыяльная камісія, каб выбраць 25 салдат для танкавай часці ў Ленінградзе. Папаў сюды і Марк Троц — чалавек не толькі моцны, але і разумны па дэталях тэхнікі.

У танкавай роце, дзе служыў Троц, былі навейшыя савецкія танкі. Як расказвае Марк Троц, да танкістаў ленінградцы мелі асаблівыя адносіны.

Калі немцы напалі на Савецкі Саюз і пачалася вайна, іх танкавая рота была перакінута найперш пад Пскоў, а потым на фінскі фронт. Больш года тут дзяліў свой ваенны хлеб М. Троц са сваімі сябрамі. Быў гэта цяжкі час. 25 лістапада 1942 года іх ваенная часць папала ў акружэнне, а потым у палон. Быў у лагеры ў Фінляндыі — 25 км ад Хельсінкаў. Перажыў тут пекла. Калі пачалі гнаць фашыстаў і амерыканска-англійскія саюзнікі адкрылі другі фронт, у лагер прыехала савецкая камісія. Вайна набліжалася да канца.

Вяртаючыся дамоў, М. Троц заехаў у Ленінград — гэты цудоўны горад, які ён бачыў і пакахаў да вайны. Ленінград быў разбураны. „Загінула „Янтарная комната“, дзе я быў да вайны“ — сумна ўспамінае Троц. У канцы 1945 года вярнуўся на радзіму, і нават родны бацька не пазнаў сына. А сын расплакаўся — з радасці, з вяртання...

**М. Панфілюк**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Сёння хочам засігналізаваць, што расце пагроза пажараў. Хронікі прыносяць весткі аб тым, што згарэла хата ў Беластоку, стадола ў Краснянах, гміна Саколка, (тут прычынай было 6-гадовае дзіця), у вёсцы Баброўка, гміна Чаромха, згарэла хата, у Курашаве гміна Чыжы, згарэла стадола, а яшчэ ў Беластоку згарэў дах шліферскага варштату і слёсарскія прылады.

Асцярожна з агнём!

## Вёска Шчыты і яе помнікі культуры

У некалькіх сотнях метраў ад турыстычнага шляху Бельск — Гайнаўка — Белавежа ў Арлянскай гміне знаходзяцца дзве вёскі: Шчыты-Навадворы і Шчыты-Дзенцялова. Паходжанне назваў вёсак выясніў др Кандрацюк у „Мясцовых назвах паўднёва-ўсходняй Беласточчыны“.

Першым уладальнікам гэтых вёсак быў літоўска-рускі род Шчытова. Пазней гэтыя землі перайшлі да Іжыковічаў герба Ястжомб у 18 стагоддзі, але, як кажа грамадзянін Антыховіч, належалі да венгерскага шамбелана караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Выглядае на тое, што Венгерскі — не хто іншы, а вядомы польскі паэт Каетан Венгерскі (1756-87); ад 1779 года падарожнічаў па Еўропе і Амерыцы, аўтар паэмы „Арганы“, вершаў „Партрэты пяці Альжбет“ і іншых лірычных. Паводле сведчанняў, Венгерскі пабудаваў тут драўляны дом, прывёз з Галандыі інжынераў, якія кіравалі пабудовай сажалак, правялі меліярацыю, зрабілі сад і паставілі дом-„дворык“. Праўдападобна, ад таго частка вёскі Шчыты называецца Алендамі, бо там жылі галандцы-інжынеры.

Шляхецкі дворык выглядае, быццам апісаны ў „Пану Тадэвушу“: „Сярод такіх палёў, у бярозавым гаю, над берагам ручаю, на невялікім узгорку стаяў двор шляхецкі“. Здаецца, быццам тут быў Адам Міцкевіч і тут памясціў свой „Апошні заезд на Літве“. Маем тут узгорак, на ім дворык, і рэчачку, і гай, і сад, і непадалёк лес. Надта прыгожы куточак Беласточчыны!

У Шчытах, таксама на ўзгорку, стаіць праваслаўная царкоўка, якая раней была уніяцкай. Яе пабудаваў, як кажуць, пан Венгерскі. З царкоўных хронік вядома толькі тое, што новы алтар для царквы падараваў пан Адольф Вевюроўскі. Гэта было ў канцы 19 стагоддзя. Яшчэ Шчыты маюць чатыры старажытныя сялянскія хаткі. Усе гэтыя помнікі культуры патрабуюць рамонту і кансервацыі. Гісторыкі польскай літаратуры можа выяснілі б, ці гэта можа быць праўда, што ў Шчытах жыў удзельнік „Чвартковых абедаў“, а калі б так, трэба глянуць на дворык з іншага боку.

**М. Л.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ТАГО І СНЕГ НЕ НАКРЫЕ“, „Ніва“ № 12/1151 ад 19 сакавіка 1978 года.**

**Адказвае: MIEJSKIE PRZEDSIĘBIORSTWO OCZYSZCZANIA W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na notatkę zamieszczoną w tygodniku „Niwa” z dnia 19.03.1978 r. odnośnie niesprawnych pojemników kontenerowych na osiedlu „Tysiąclecia” (m.in. i na posesji przy ul. Wesołej 7) — Miejskie Przedsiębiorstwo Oczyszczania w Białymstoku uprzejmie wyjaśnia, że na terenie miasta ustawionych jest kilkaset tego typu pojemników. Wspomniane osiedle jako pierwsze zostało w nie wyposażone. Należy stwierdzić, że przysparzają one nie mało kłopotów ze względu na częste uleganie uszkodzeniu. Wszelkie uszkodzenia nasze przedsiębiorstwo musi usuwać we własnym zakresie.

Mając do tego celu przystosowany jeden pojazd, przedsiębiorstwo nie było w stanie szybko realizować zgłoszenia uszkodzeń pojemników.

W miesiącu marcu na wielu dojazdach do śmietników zalegały jeszcze zwały śniegu, które utrudniały wykonywanie czynności spawalniczych, nie mniej jednak do końca tego miesiąca wszystkie kontenery na osiedlu „Tysiąclecia” zostały doprowadzone do stanu używalności, a nieczystości nagromadzone luzem wywiezione. Powyższe potwierdziła administracja osiedla w dniu 30.03.1978 r.

Obecnie uszkodzenia pojemników są likwidowane na bieżąco i nie mamy reklamacji w tej sprawie od poszczególnych administracji osiedli.

Za zaistniałą sytuację jaka miała miejsce w ówczesnym okresie Miejskie Przedsiębiorstwo Oczyszczania ze swej strony przeprasza autora notatki.

**Dyrektor**
**mgr inż. Janusz Tymosiak**

**Да фрагменту заметкі „ДЗЕ ПАГУТАРЫЦЬ У ВЁСЦЫ?“, „Ніва“ № 23/1162 ад 4 чэрвеня 1978 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W NAREWCE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową Waszego korespondenta z 23/1162 numeru tygodnika „Niwa” z dnia 4 czerwca 1978 roku Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska” w Narewce informuje, że punkt skupu wełny i skór został uruchomiony z dniem 6.06.1978 r.

**Wiceprezes d/s Obrotu Rolnego**
**Konstanty Kabać**



 

Імпартгумар

# АЛЬБО-АЛЬБО...

Мы сустрэліся на семінары, які цягнуўся добрых пяць дзён. За гэты час я прызнаўся ёй у каханні, пераканаў, што маю сур'ёзны намер і пазнаёміў са сваёй матуляй. Ад'язджаючы дамоў, яна сказала, што ніколі б не магла падумаць, што прынц, якога яна чакала дваццаць пяць гадоў, акажацца такім мілым і нязграбным. А я сказаў, што яна — мой лёс, а цурацца свайго лёсу няварта, ды яшчэ калі табе трыццаць гадоў.

Імкліва праляцела некалькі дзён, і вось мая мудрая, добрая матуля дае мне на дарогу тысячу карысных парад і грошай, разлічыўшы так, каб хапіла на ўсю паездку, і я лячу да сваёй любай.

Прыляцеўшы ў яе родны горад, я першай справай заскочыў у вакзальны гастраном узяць чаго-небудзь бакалейнага.

— Будзьце ласкавы, — звярнуўся я да прадаўшчыцы, — мне б бутэлечку шампанскага.

— Шампанскае прадаецца толькі ў падарункавым камплекце, — суха адказала яна. — Акрамя шампанскага, у ім ёсць, як бачыце, каньяк, лікёр, каробка цукерак, шакаладка і лялька, у якой заплюшчваюцца вочы. Ляльку можам прапанаваць па густу: бландзінку, брунетку...

— Так, але... — нерашуча прамармытаў я, — ляльку могуць зразумець як намёк на...

— Грамадзянін, альбо-альбо...

У салоне кветак маю ўвагу прыцягнулі дзівосныя гваздзікі, якія былі выстаўлены ў вітрыне.

— Будзьце ласкавы, — папрасіў я дзяўчыну за пластмасавым столікам, — загарніце мне тры гваздзікі, пажадана розных адценняў.

— Гваздзікі толькі ў камплекце з гаршковымі кветкамі. Вось, калі ласка, на выбар: кактусы маміляры, цынерарыя, гартэнзіі, цэлозіі і іншыя.

— Так, але...

— Грамадзянін, альбо-альбо...

Падыходзячы ўжо да дому, я зайшоў у кніжны магазін і на апошнія грошы купіў томік вершаў Фёдара Цютчава і да яго ў прыдачу набор паштовак „Аружэйная палата" і „Дапаможнік па развядзенні нутрый у няволі".

Напакаваны ўсім гэтым я ўваліўся да сваёй нявесты.

— О, прынц з'явіўся! Любы мой! — радасна закрычала яна і кінулася мне на шыю. Нейкая цётачка пенсійнага ўзросту, напэўна, маці нявесты, узяла гаршкі з кветкамі, нейкая дзяўчынка год шасці ўзяла ў мяне ляльку і завішчала з радасці:

— Мама, мамачка, паглядзі якая лялька!

— Што гэта ў вас за дзяўчынка? — спытаў я ў нявесты.

— Гэта мая дачка... Прабач, любы, я забыла табе сказаць...

— Усё так, але...

— Ну, як ведаеш, дарагі. Альбо-альбо...

Тут я пачухаў патыліцу:

— Ведаеш, мая ненаглядная... Я таксама не паспеў табе сказаць, што быў жанаты і ўжо пяць гадоў плачу аліменты.

— Так, але...

— Ніякіх „але", — цвёрда сказаў я і паставіў шампанскае на стол.

**С. Мірзаян**




# НІЎКА



— *Па плану ўжо трэба скакаць, а вада будзе толькі ў чацвертым квартале.*

### ЦЁТКА

Калі хлопчык выпіў шклянку квасу, прадаўшчыца лагодна ўсміхнулася:

— Ну, што трэба цётцы сказаць?

— Дайце рэшту.

**ТРЫМАЙЦЕ ВУХА?**
*Каму прысвячаецца — той здагадаецца*

### НЕ ГРЭЕ І НЕ СВЕЦІЦЬ

*І дня не можа ён пражыць*
*Спакойна без увязкі.*
*Што-небудзь трэба вам рашыць:*
*„Заходзьце, калі ласка..."*

*Хіба ж адмовіць можа вам,*
*Але й не пойдзе далей...*
*„А як на гэта глянуць там?..*
*А што, калі не ўхваляць?..."*

*Пазвонім, хай яны рашаць*
*Ці хоць дадуць параду...*
*Я ж не магу рызыкаваць*
*Пасадай і акладам".*

*За доўгі век свой перажыў*
*Начальства ён нямала,*
*Хто гнеў, хто славу заслужыў...*
*Яго ж усё мінала.*

*Затое справ яго нідзе*
*Ні ў чым вам не прымеціць.*
*Блішчыць, як месяц на вадзе,*
*Не грэе і не свеціць.*

**Алесь Бачыла**

### У ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— Дыэта, дарагі, і яшчэ раз дыэта! — павучае Кастуся доктар Знахарук. — Ад душы раю вам прытрымлівацца ўсходняй прыказкі: „Снеданне з'еш сам, абед падзялі з сябрам, а вячэру аддай ворагу".

— Дарагі доктар! — кажа Кастусь. — Я гатовы быць вашым сябрам за абедам. А калі і вячэра шкодная для вашага каштоўнага здароўя, я сам з задавальненнем згаджуся быць вашым ворагам у час вячэры.

**ГУМАР З БАРАДОЮ**

### ДЫЯЛОГ

— Здароў, Лукаш! Што капаеш?

— Гліну.

— Ты не бачыў мае казы?

— Яшчэ не будзе два вазы...

— Нешта ты, Лукаш, аглух?

— Я сам, а не ўдвух...

— Хм... Ды ўжо ж ты, Лукаш, стаў не дачуваць...

— А чаго мне начаваць?

Вось накапаю ды і пайду!





**Ён паставіў перад падначаленымі задачу: падняць работу на недасягальную для яго вышыню.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Старшыня сельскага спажывецкага таварыства складаў справаздачу перад паявікамі. Толькі скончыў — злева пытанне. Аж сапрэў бедны, адказваючы.

А яны сыплюцца безупынку...

— Чаму ў нашу краму не прывозяць мэблі?

— Прывязуць... Ужо ёсць на базе...

— Чаму не таргуеце малочнымі прадуктамі?

— Праз тыдзень і гэта будзе... Ужо выпісалі нарад...

Нейкі жартаўнік і сваё падкінуў:

— А чаму дажджу няма?

— Хутка будзе! Ужо ёсць разнарадка ў райспажыўсаюзе.

*

Праходзячы па калідору атэля, упраўляючы ўбачыў хлопчыка — чысцільшчыка абутку, які сядзеў на падлозе каля дзвярэй гасцінічнага нумара і чысціў боты.

— Чаму ты чысціш боты не ў тым месцы, дзе трэба? — закрычаў упраўляючы.

— Я не магу, сэр, — адказаў хлопчык. — Гэты шатландскі джэнтльмен трымае іх па той бок дзвярэй за шнуркі.

*

— Дарагая! — крычыць муж, урываючыся ў пакой. — Мы атрымалі галоўны выйгрыш у латарэі! Мы цяпер багатыя!

— А адкуль ты ўзяў грошы на білет? — падазрона пытае жонка.

### ЗДЗІВІЎ

— Учора выступаў у цырку артыст, які надта добра ўмее ездзіць на кані. Ён скакаў і стоячы, і пад канём, і на шыі, нават на баку...

— Вось дык здзівіў! Я, як першы раз сеў на каня, дык таксама гэтак рабіў.

### ЯКІЯ ЗОРКІ?

— Якія яны, зоркі? — пытаў усіх крот.

— Яны, як мы, не любяць святла, — сказала сава.

— І, як мы, купаюцца ў лужынах, — сказала жаба.

— І, як мы, глядзяць уніз, — сказала свіння.

— Галоўнае, яны драбнейшыя за нас, — сказаў суслік.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Крыстыны Шульц з Беластока змяшчаем песню:*

## Bliska moim myślom

**śpiewa Andrzej Tenard**
**muzyka i słowa: Andrzej Tenard**

Bliska moim myślom,
pragnę ci powiedzieć,
że doprawdy wszystko mam,
wszystko... oprócz ciebie.
Bliska moim myślom,
a dłoniom daleka,
może o tym nawet nie wiesz,
że na ciebie czekam.

Daj mi dzień, jeden dzień,
jedną noc, jeden sen,
to powinno znów wystarczyć mi
do jutra.
Daj mi dzień, jeden dzień,
jedną noc, jeden sen,
chociaż wiem, że znowu noc
będzie za krótka.

Bliska moim myślom,
pragnę ci powiedzieć,
w życiu miałem wszystko już,
wszystko... oprócz ciebie.

Daj mi dzień, jeden dzień...

# КУРЁЗЫ

### ДОЛАР... ЗА СІНЯК

Бабе дарога — ад печы да парога... Прымаўка гэта адносіцца да глыбокай старажытнасці. Але і зараз, у Англіі, напрыклад, на многіх прадпрыемствах жанчыне плацяць за адну і тую ж работу значна менш, чым мужчыне. А пра тое, каб англійская жанчына займала такое ж месца ў галіне навукі ці культуры, няма і гаворкі.

Жанчына абмежавана тут у правах на займанне кіруючых пасад, у праве быць абранай у муніцыпалітэт. Пагардлівыя адносіны да жанчыны ў гэтай краіне даведзены да таго, што яна не можа разлічваць навat на заступніцтва закона. Калі, скажам, п'янаму брытанцу ўздумаецца пабіць проста на вуліцы сваю жонку, то прахожыя не лічаць сваім абавязкам умяшацца. Нават паліцэйскія адводзяць вочы ўбок: муж б'е сваю жонку на правах уласнасці, і гэта з'яўляецца яго асабістай справай.

А вось у ЗША пры наяўнасці той жа абмежаванасці жанчыны ў палітычных і маральных правах у параўнанні з мужчынам, урад падумаў пра тое, каб неяк пашкадаваць менавіта тых жанчын, якіх мужы маюць звычку біць. Там спецыяльна выдзелілі аж мільён долараў для аказання дапамогі пабітым жонкам. А паколькі па афіцыйных дадзеных у краіне зараз налічваецца каля мільёна амерыканак, якіх мужы выхоўваюць пры дапамозе кулака, то кожнай з іх даводзіцца за сіняк каля долара ад удара.




Імкнучыся наперад, не надта адрывайся ад астатніх, бо на наступным крузе іх могуць палічыць за перадавых, а цябе за адстаючага.